2
2015

# Маляванка «Бусі»

## У букет для мамы



*Вершы Раісы БАРАВІКОВАЙ*
*Малюнкі Віталя ДУДАРЭНКІ*

## Незабудкі



Аж на лоб насунуў шапку,
стаў у Бусі позірк пудкі:
ён прыйшоў праведаць жабку,
а пабачыў незабудкі!



Любіць кнігаўка палётаць,
дзе з вясны жаўцее лотаць.
Каля сажалкі пад горкай
кветка гэтая – як зорка.



## Лотаць



Гэта ён стаіць, канечне, –
у жоўтай шапачцы сланечнік.
Каця да яго ідзе
і гаворыць: „Добры дзень!“



## Сланечнік

## Рамонак



Ранкам на сцяблінцы гонкай
ён расцвіў на клумбе блізкай,
і ўсміхаецца рамонку
сонейка і наш Дзяніска.



## Ландыш



Што дзяўчынку так хвалюе?
Запытайце лепш у Ванды.
Першы раз яна малюе
ў падарунак маме ландыш.



## Настуркі



Не праганяе Іра Мурку,
вабяць кошачку настуркі.
Любіць і сама Ірынка
кветкі, што нібы жарынкі.



## Нарцыс



Сёння наш гарэза-кіса
пазнаёміўся з нарцысам.
Дзівіцца, чаму нарцыс
не прывітаў яго: кіс-кіс?!

## Ружа



Хлопчык Дзіма, вельмі дужы,
саўладаць не можа з ружай.
Хоча адшчыкнуць, ды зноў
пальчык аб шыпы ўкалоў.



## Лілея



– Гляньце, цуд на тонкай ножцы
ўвесь у кудзерках бялее!
– Гэта, – кажа дзед Антошу, –
кучаравая лілея.

## Шыпшына



– Ці не жарты чарадзея:
Штосьці ў садзе заірдзела?
І суцешыў тата сына:
– Гэта расцвіла шыпшына!



## Званочак



Не бывае сну даволі,
ды расплюшчыў Славік вочы:
абудзіла наваколле
кветка зыркая – званочак!

## Цюльпан



Страказа ў сад завітала,
кветнік там аблюбавала,
дзе разрослася, быццам пан,
фарсісты прыгажун-цюльпан.



## Браткі



Ля бабулінае градкі
зацвілі на золку браткі,
ды сказаць Анютка хоча:
– Вой, раскрылі кветкі вочы.

## Півоні



Шмат у пеўніка турботаў.
З палівачкаю сягоння
ходзіць ён у жоўтых ботах
ля чырвоненькіх півоняў.



## Валошка



Мікіта кажа:
– На мяжы
Тузік цэлы дзень ляжыць.
Мабыць, там валошка зранку
яму спявае калыханку?!